Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне

# СТУДЭНТ

Вучыся, працуй і змагайся!





Мюнхэн – 1947

////////////////////////////////////////

# Студэнцкі КЛІЧ

////////////////////////////////////////

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦКАГА ЗГУРТАВАНЬНЯ - МЮНХЭН
Часапіс студэнцкае моладзі. Выходзіць на правох рукапісу.

Год III. Нр. 2/16/ Верасень 1947 Цана 3 НМ.

## СТУДЭНЦКІ КЛІЧ.

Няхай нас ня страшыць ні голад, ні холад
Да гэтага, брат, прывыкай.
Вучыся, працуй і змагайся, як волат
Братом ты сваім памагай.
/ з песьні моладзі/

Вучыся, працуй і змагайся — гэтыя словы выпісалі мы на вокладцы першага сьціплага нумару "Студэнцкіх Вестак".

І праз увесь шэраг далейшых нумароў адзінага беларускага студэнцкага часапісу ў Нямеччыне, незалежна ад зьменаў у назове яго, незалежна ад тэндэнцыяў зьместу, гэтыя словы ўпрыгожвалі і сяньня ўпрыгожваюць ягоную вокладку.

Ды ня толькі ўпрыгожвалі вокладку. Яскравай ніткай перавіваючыся праз зьмест часапісу, яны сталіся нашым клічам, з якім, узаемна падбадзёрваючы сябе, мы пайшлі на голад і холад студэнцкага жыцьця на чужыне.

Гэтыя словы сталіся нашым студэнцкім клічам. Чаму ? Бо яны коратка і выразна акрэсьліваюць мэту, якую ставім мы, якую павінен ставіць перад сабою кожны беларускі студэнт, сьвядомы сваіх заданьняў, і сумленна шукаючы шляхоў іх зьдзейсьненьня. Ці сапраўды гэта так? Ці сапраўды гэты кліч адпавядае істоце нашых мэтаў, зьяўляецца сфармуляваньнем заданьняў, якія ставіць перад намі сяньня нашае пачуцьцё адказнасьці перад самымі сабою, перад нашым Народам і Бацькаўшчынай, перад людзтвам наагул?

Мы сталі студэнтамі, каб вучыцца. Даўно мінулі тыя рамантычныя часы, калі слова "студэнт", не заўсёды пакрываючыся са словам "студ'яваць", часта-густа было сынонімам вясёлага, разгульнага юнака ў карпаранцкай шапцы, ці агністага запаленца рэвалюцыянэра з поўнай галавой хаатычна награмаджаных ідэяў, з якіх кожная наступная была больш рэвалюцыйнай, больш радыкальнай за папярэднюю.

Жыцьцёвы рэалізм праглынуў гэтыя часы. Мінулі таксама часы і халоднага вырахаванага студэнцкага пазытывізму, калі студэнт вучыўся роўна, заўзята з пэрспэктывай дыплёму як сродка матар'яльнага дабрабыту ў будучыні. Для нас-беларусаў гэтыя часы і не вядомы, бо, жывучы апошнія стагодзьдзі пад чужацкай акупацыяй, мы досыць бачылі, як вярхі нашага гаспадарчага і эканамічнага жыцьця займалі дыплямаваныя чужынцы.

Тым болей у сяньняшніх абставінах выгнаньня ў чужы сьвет, дзе такі застой ува усіх галінах працы і гэтулькі сваіх спэцыялістаў, няразнымі застаюцца пэрспэктывы пасьля сканчэньня студыяў.

Аднак, ня гледзячы на абдзёртую з усякага рамантызму сяньняшнюю студэнцкую сапраўднасьць, на імглістую беспэрспэктыўнасьць няведамага заўтра, мы перамагаючы голад і холад сталі студэнтамі.

Мы сталі студэнтамі, каб шляхом пазнаньня таямніцаў, узбагачанай

тысячагодзьдзямі досьледу лепшых розумаў людзтва навукі, стацца спэцыялістамі — людзьмі, могучымі быць найболыш карысным нашаму народу. Ня толькі спэцыялістамі. Студыі вядуць за сабою агульнае разьвіцьцё, пазнаваньне заканамернасьцяў людзкога жыцьця, вучаць правільна ацэньваць падзеі і мець аб іх уласную незалежную думку, падымаюць узровень нашай маралі і этыкі. Мы вучымся на тое, каб, задаволіўшы жаданьне пазнаваньня, набытыя ў вышэйшай школе веды аддаць у будучыні ў службе свайму народу, сваёй бацькаўшчыне.

Вельмі важна быць сьведамым нацыянальна і над усё любіць свой край. Гэтай сьведамасьці, гэтай любові вучаць нас узгадаваньне бацькоў, народ, сярод якога мы расьцём, родная школа. Гэта ёсьць, аднак, неабходны нацыянальны мінімум, які мусяць мець усе людзі, належачыя да аканчальна сфармаваных сяньня народаў, да якіх мы-беларусы маем поўнае права сябе залічаць. Але вельмі мала будзе, спыніўшыся на гэтым мінімуме, захлёбвацца гістэрычна ў выразах патрыятызму не заўсёды ведаючы, што з ім зрабіць, каб прынесьці большую карысьць свайму народу. Мы вучымся, каб зрабіць наш уклад у жыцьцё нашага народу найболыш вартасным, а наш патрыятызм і нашую сьвядомасьць ужыць там, дзе яны прынясуць найболыш карысьці Беларусі.

У асягненьні мэтаў, якія ставіць перад намі вышэйшая школа і якія ставім перад сабою мы самы, неабходным дзейнікам зьяўляецца праца. Яна — гэты магутны рухавік людзкога поступу, зьяўляецца і нашым штодзённым спадарожнікам. Толькі дзякуючы працы, мы замацоўваем здабытыя веды, ствараючы гэтым прадумовы далейшага поступу наперад.

Нам-беларускай студэнцкай моладзі ня прывыкаць да працы, бо мы ўзрасьлі ў ёй. У цяжкіх варунках выгнаньня, толькі дзякуючы загартаванасьці ў працы, мы зможам праіснаваць. Мы гэта ведаем, і таму нашым лёзунгам ёсьць побач з навукай праца.

Мы не зьяўляемся паасобнымі расьцярушанымі адзінкамі. Нават тут, на чужыне, мы зьяўляемся сябрамі, перадусім нашай маленькай студэнцкай грамады, далей часткай нашай нацыянальна-беларускай эміграцыі. І якраз таму, што гэтая маленькая грамада, закінутая сярод магутных чужынцаў, найболыш выстаўлена на цяжкасьці эканамічнага і грамадзкага нацыянальнага характару, нашым абавязкам зьяўляецца канструктыўнай працай на грамадзкай ніве дапамагчы перамагаць цяжкасьці, якія ставіць перад намі усімі варункі эміграцыі.

Праца для сябе, для бліжэйшага свайго акружэньня братоў-выгнанцаў і, пасрэдна, для далёкай Бацькаўшчыны зьяўляецца сяньня другім нашым заданьнем.

Але жыцьцё адзінкі і народу ў гэта ня толькі спакойнае, роўнае перамаганьне пры помачы працы перашкодаў. Здараецца, што гэтыя перашкоды быццам наўмысна накіданыя нейкай злоснай рукой глыбы, згруджваюцца на шляху, імкнучыся ўпарэмніць усякую працу, і тады яна пераходзіць у змаганьне. Бо-ж змаганьнем мы называем дзейнасьць скіраваную на адхіленьне, сьвядома пастаўленых на нашым шляху варожымі сіламі, перашкодаў.

Жыцьцё адзінкі гэта ёсьць, як цьвердзяць біолёгі, змаганьне. Жыцьцё народаў гэта тым болей змаганьне. Так нядаўна мы былі сьведкамі найцяжэйшага, бо збройнага змаганьня народаў амаль усяго сьвету, якое каштавала людзтву мільёны ахвяраў. І як-бы ні імкнуліся народы выключыць у будучыні элемэнт барацьбы з іхняга жыцьця, хто ведае ці ўдасца ім гэта, хоць імкненьне да гэтага ёсьць заданьнем усяго людзтва. Ня ўдасца гэта, бо ў народах заўсёды, ня гледзячы ні на якую цывілізацыйную палітуру, застанецца нешта са зьвера, што будзе заўсёды пхаць іх да паняволеваньня іншых народаў. Ня ўдасца гэта, бо ў народах паняволеных ніколі ня згасьне імкненьне вызваліцца, каб скарыстаць са сьвятога Боскага права быць вольнымі, роўнапраўнымі з іншымі. І гэтага права змагацца за волю, за роўнасьць з іншымі і незалежнасьць ад іншых ня можа ад народаў паняволеных адабраць ніхто. Гэтага права ніхто ня можа адабраць і ад Беларускага Народу!

"Вучыся, працуй і змагайся..."

Аб'ядноўваючы ў сабе тры галоўныя напрамкі, у якіх павінна ісьці нашая дзейнасьць, гэты заклік стаецца, такім чынам, сапраўдні нашым студэнцкім клічам.

І ў знак вернасьці гэтаму клічу, у знак жаданьня ісьці далей шляхом, які ён нам паказвае, наш часопіс пачынаючы з нр. 15 завецца "Студэнцкі Кліч".

"Студэнцкі Кліч" — гэта кліч арганізаванага беларускага студэнцтва па ўсіх студэнтаў-беларусоў за мяжой:

Вучыцца так, каб, уПісаўшы беларускае імя сярод лепшых студэнтаў, пакінуць акадэміцкія муры вартымі атрыманага званьня.

Працаваць так, каб беларускае арганізацыйнае грамадзкае жыцьцё за мяжой было доказам нашай дасьпеласьці па вырашаньня арганізацыйных праблемаў аж па дзяржаўнага маштабу ўпучна.

Змагацца так, каб, выклікаўшы пашану і прызнаньне мэты нашага змаганьня, існаваньне Незалежнай Беларускай Дзяржавы зрабіць гістарычнай неабходнасьцю будучыні.

М. Паўловіч

---ооо---



## НА НОВЫМ ЭТАПЕ.

Перад намі 1947/48 акадэмічны год. Гэта трэйці ўжо навучальны год ад тае хвіліны, калі, практычна кажучы, адчыніліся для нас дзьверы вышэйшых установаў Нямеччыны, бо аб студыях, ці нават пэрспэктывах студыяў у умовах нацыянал-сацыялістычнае Нямеччыны да заканчэньня вайны гаварыць тут ня прыходзіцца.

Звычайна на такім этапе, як пачатак новага акадэмічнага году паўстаюць розныя думкі, зарысоўваюцца пэрспэктывы на будучыню. З якімі-ж планамі, з якою ступеньню падрыхтаванасьці сустракае беларускае студэнцтва ў Нямеччыне новы акадэмічны год?

Каб поўнасьцю высьветліць гэтае пытаньне прыходзіцца вярнуцца ўспамінам крыху назад, да лета 1945 г. Вось гэты момант быў вельмі важным, не памылімся, калі скажам вырашальным, у нашым жыцьці на чужыне. Сяньня, калі мы глядзім на гэтае недалёкае мінулае з аддегласьці часу, мусім прызнаць, што падзеі засталі нас поўнасьцю здэзар'ентаванымі і непадрыхтаванымі да плянавага дзеяньня. Такія факты як: недахоп беларускіх лягероў адпаведна колькасьці беларусоў на эміграцыі і расьцярушанасьць гэтых апошніх па чужых асяродках, адсутнасьць прэсы, ці недахопы ў грамадзкім жыцьці нажаль аб гэтым сьведчаць і калісь нам будуць заслужаным закідам. Вышэй сказанае датычыць усяе беларускае грамадзкасьці на эміграцыі ў Нямеччыне ў тым ліку і нашага студэнцтва, хаця, магчыма, і ў меншай меры.

Якія-ж памылкі зрабілі мы - беларускае студэнцтва ў нашым студэнцкім жыцьці на працягу гэтых двох год? З студыюючых сяньня амаль 90% адразу пасьля адчыненьня ўнівэрсытэтаў у Нямеччыне паступіла на вышэйшыя навучальныя ўстановы. Прырост новых студэнтаў за гэтыя два гады быў у нас вельмі нязначны. З гэтага выглядала-б, што пераважная частка нашай студэнцкай моладзі, якая пачала вышэйшую асьвету ў паваеннай Нямеччыне, павінна была-б мець за сабою палову студыяў. Нажаль так ня ёсьць і то таму, што, характэрная старэйшаму грамадзтву, ар'ентацыя на тымчасовасьць побыту ў Нямеччыне, адбілася і ў настаўленьні студэнцкай моладзі, выклікаючы гэтым часта нясур'ёзныя адносіны студэнта да студыяў як такіх. Падобная ар'ентацыя, калі яна для нашага грамадзтва, уважаючага свой побыт у Нямеччыне як пераходны этап эміграцыі, была зьявай нармальнай, дык для студэнцтва — недапушчальнай і шкоднай. Як кансэквэнцыя такіх абставінаў мы бачым сяньня некаторае запазьненьне і недахопы ў працы

нашых студэнтаў.

У абарону студэнцкай моладзі можна прывесьці ўсе тыя цяжкасьці, якія характарызуюць быт беларусоў у умовах выгнаньня наагул. Гэта будзе перадусім той маральны і псыхічны стан прыгнечаньня, які паводзіць нармальнага чалавека да хваробы і тым больш ня спрые умысловай працы студэнта. Другой перашкодай будуць матар'яльныя цяжкасьці. Праўда, беларуская моладзь ніколі ня мела надзвычайных умоваў для навукі, аднак цяпер яна знаходзіцца ў беспараўнальна горшым становішчы. Такія статыстычныя даныя як: 30 % студэнтаў ангельскай зоны загрожаны тубэркулёзам, студэнты мюнхэнскіх вышэйшых школаў сярэдня важаць на 12 кг менш нармальнай вагі — яскрава адлюстроўваюць варункі, у якіх жывуць і працуюць студэнты ў Нямеччыне. Памятайма-ж, што чужынцы, у тым ліку і мы беларусы, зьяўляемся часткай студэнцтва найгорш матар'яльна забясьпечанай.

Ня гледзячы, аднак, на ніякія перашкоды, з паступіўшых два гады таму назад на вышэйшыя навучальныя ўстановы ў Нямеччыне, амаль ніхто ня кінуў студыяў. Шмат хто з тых, хто свой побыт у Нямеччыне разглядаў як зьявішча тымчасовае, а таму і студыі трактаваў ня зусім паважна, зрэвідаваўшы сваё становішча, узяўся за навуку — стаўся сапраўдным студэнтам.

Мы распачынаем новы акадэмічны год. Перад намі паўстае новая паважная праблема -- гэта пытаньне разьмяркаваньня нашага студэнцкага прыросту па вышэйшых навучальных устновах Нямеччыны. Як ведама, у амэрыканскай і ангельскай зонах Нямеччыны працуюць 3 беларускія гімназіі. Шмат беларусаў наведвае таксама чужацкія сярэднія школы. Так што кожны год мы маем да 30 абсальвэнтаў сярэдніх школаў, гатовых распачаць студыі. Звычайна паступленьне на ўнівэрсытэт для таго, хто мае матуру сярэдняе школы, зьяўляецца толькі фармальнасьцю. Сяньня, аднак, справа гэтая вырастае да разьмераў праблемы, а гэта дзеля таго, што нашыя абсальвэнты маладыя векам, а новыя законы нямецкія /хаця яны і дапушчаюць на ўнівэрсытэты ўстаноўленыя Кантрольнай Радай 10 % чужынцаў/ такія катэгорыі кандыдатаў ставяць пры прыйме на студыі на апошні плян. І таму, усе студэнцкія і грамадзкія беларускія арганізацыі павінны прылажыць максімум стараньняў, каб дапамагчы сьвежым абітур'ентам паступіць на вышэйшыя школы. Не забывайма, што ўзмацненьне радоў беларускай інтэлігенцыі -- адна з канкрэтных нашых мэтаў.

З таго, што мы ня толькі студэнты, але мы студэнты-беларусы, выплываюць нашы абавязкі перад беларускім грамадзтвам. Што зрабіла дагэтуль і што думае рабіць у будучыні беларускае студэнцтва ў напрамку грамадзкай працы? Беларуская студэнцкая моладзь ясна здавала сабе справу, што дабіцца асягненьняў у галіне грамадзкай працы можна толькі праз стварэньне моцных нацыянальных студэнцкіх арганізацыяў, якія-б побач іншых сваіх заданьняў, асаблівую ўвагу зьвярнулі на выробленьне ў сваіх сяброў высокіх грамадзкіх якасьцяў праз самаўзгадаваньне. І так паўсталі сьпярша мясцовыя студэнцкія арганізацыі, якія потым аб'ядналіся ў Цэнтралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў на Чужыне. Казаць, што ўсе беларускія студэнты ахоплены арганізацыйнай сеткай, было-б крыху няправільна, бо фактычна беларускія студэнцкія арганізацыі існуюць толькі ў Мюнхэне, Марбургу і Рэгэнсбургу; студэнты іншых унівэрсытэцкіх асяродкаў належаць да бліжэйшых студэнцкіх згуртаваньняў, або яшчэ і зусім ня прылучыліся да нашай грамады.

Пара было-б беларускім студэнтам Карльсругэ і Фрайбургу заснаваць уласныя арганізацыі, студэнтам Штутгарту і Эсьлінгэн навязаць лучнасьць з беларускім студэнцтвам, а Студэнцкае Згуртаваньне ў Рэгэнсбургу павінна ўжо ўрэшце распачаць працу.

Абавязкам кожнага беларускага студэнта зьяўляецца адшукаць на тым унівэрсытэце, дзе ён студ'юе, іншых беларусоў-студэнтаў, заснаваць мясцовую студэнцкую арганізацыю і паведаміць аб гэтым Цэнтралю Беларускіх

Студэнцкіх Арганізацыяў на Чужыне. У кожным унівэрсытэцкім цэнтры павінна існаваць беларуская студэнцкая арганізацыя, бо амаль на кожным унівэрсытэце Нямеччыны сяньня знойдзецца хоць некалькі беларусаў.

Часовае зьявішча прыналежнасьці паасобных беларускіх студэнтаў некаторых унівэрсытэтаў да беларускіх студэнцкіх арганізацыяў суседняга акадэмічнага цэнтру /аддеглага нярэдка на 100 і болей кілямэтраў/ ёсьць ненармальным. Гэтыя студэнты, калі яны хочуць даказаць, што яны зьяўляюцца сапраўды беларускімі студэнтамі жадаючымі і ўмеючымі арганізаваць сваё нацыянальна-сяброўскае жыцьцё, павінны стварыць свае мясцовыя студэнцкія арганізацыі.

У надыходзячым акадэмічным годзе нашыя студэнцкія шэрагі павялічацца новаўступаючымі. Іх абавязкам будзе ўліцца ў нашыя студэнцкія арганізацыі, а там дзе іх яшчэ няма, спрычыніцца да стварэньня гэтых арганізацыяў.

Няхай ня будзе ў Нямеччыне ні аднаго беларускага студэнта, які-б не належаў да беларускай студэнцкай арганізацыі, а належачы да яе, ня дбаў аб яе рост і росквіт, бо толькі свая арганізацыя дае маральную і матар'яльную падтрымку, стварае атмасфэру сяброўскага сужыцьця, умацоўвае веру і ўпэўненасьць у нацыянальныя ідэалы дапамагаючы гэтым у захаваньні свайго нацыянальнага я.

В. Сьвяцілавіч

---§§§---

НА ЧУЖЫНЕ

Вакол мяне кветкі прыгожа красуюць,
Маркотна між іх я хаджу адзінок.
Аж бачу -- мне сіні галоўкай ківае
Наш родны, забыты ў жыні васілёк.

"Здароў будзь, зямляча!" Чуць бачны ў даліне
Панура, нявесела шэпча ён мне:
-- "Успамянем, мой дружа, ў багатай чужыне
Аб беднай, далёкай сваёй старане".

1908 М. Багдановіч

---§§§---



БЕЛАРУСКІ СТУДЭНТ !

Т в а ё м е с ц а с я р о д с в а і х !

Уступай у арганізаваныя шэрагі беларускага студэнцтва

за мяжою.

Пазытыўнай творчай працай у арганізацыі ты захаваеш

сябе для свайго Народу і Бацькаўшчыны.

---§§§---

З навукі і тэхнікі:

# ЦЕПЛАПОМПА

як адно з ашчаднасьцёвых мерапрыемстваў у сучаснай цеплавой гаспадарцы.

Магутны ўзрост прамысловасьці, які назіраецца ў апошніх дзесяцігодзьдзях ці, нават, дасяцігодзях, характэрызуецца з аднаго боку вялікай разнастайнасьцю прадукцыі, з другога боку не аграмаднай колькасьцю. Лёзунгам сяньняшняй мадэрнай тэхнікі сталася: пры помачы як найменшай колькасьці працоўных рук як найбольшую прадукцыю асягнуць. Дзе толькі можна чалавека замяняе машына.

Усё гэта разам узятае стварае вялізарнае запатрабаваньне ў энэргэтычнай гаспадарцы сьвету. Машыны трэба гнаць, для гэтага трэба энэргіі. Галоўнымі носьбітамі энэргіі зьяўляюцца: каменны вугаль, мінэральныя алеі, гаручыя газы і, урэшце, торф. Але запасы гэтых прамысловых паліваў зьмяншаюцца. І нават фахоўцы-энэргэтыкі багатых сяньня ў прамысловыя паліва краінаў з непакоем пачынаюць аглядацца і, з алаўкам у руках, падлічваць як доўга яшчэ здолеюць дыміцца коміны фабрыкаў іхніх краінаў.

Малеючыя рэсурсы прамысловых паліваў змушаюць, у першую чаргу, да шуканьня сродкаў, як найбольш ашчаднае гаспадаркі імі, далей – да шуканьня іншых крыніцаў энэргіі. Найбольш істотнай з гэтых крыніцаў, выкарыстоўванай ужо ад даўжэйшага часу ў краінах, дзе на гэта дазваляюць тапаграфічныя варункі, зьяўляецца "белы вугаль" – сіла спаду водных масаў. Вядучымі ў выкарыстаньні гэтага "белага вугля" зьяўляюцца: краіна вадаспадаў Нарвэгія, у меншай меры Нямеччына і Швайцарыя, якія найраньней сталі на гэты шлях, змушаныя да гэтага энэргэтычным дэфіцытам іхняй прамысловасьці абумоўленым прыроднай параўнаўчай беднасьцю паліўных рэсурсаў. Заахвочаныя таннасьцю здабыванай гэтым шляхам энэргіі іншыя народы, там дзе гэта ёсьць магчыма, пераходзяць таксама да выкарыстаньня энэргіі спадаючай вады. Гэтая крыніца, бадай што, аднак, ня зможа цалком пакрыць энэргэтычнага запатрабаваньня сучаснай прамысловасьці.

Ашчаднасьцёвыя мерапрыемствы ў выкарыстаньні паліваў ідуць у напрамку: найбольш рацыянальнага спальваньня, г.зн. такога спальваньня, пры якім атрымоўваецца найбольшая колькасьць цеплавой энэргіі, далей у напрамку найлепшага выкарыстаньня атрыманай энэргіі ў сілавой і цеплавой гаспадарцы.

Сілавой гаспадаркай мы называем гаспадараньне той часткай энэргіі, якая, атрыманая найбольш эканамічным шляхам з цеплавой энэргіі спальваньня, зьяўляецца на вале рухавіка ў форме "мэханічных коней"/ PS / і адтуль, пры помачы трансмісыяў разносіцца да рабочых машынаў, альбо даходзіць да гэтых-жа машынаў у форме электрычнага току па правадох / kW / ад камутатара дынамомашыны гнаной тым-жа рухавікам.

Затое цеплавой гаспадаркай мы назавём гаспадараньне той часткай энэргіі, якая ў непасрэднай форме цеплавой энэргіі /гарачая пара, ці газы/ паступае ў фабрыку для праводзеньня тэхналягічных, ці хімічных працэсаў, у якіх амаль заўсёды патрэбна цяпло, акрэсьленая тэмпэратура.

Прыкладам фабрыкаў з амаль выключна сілавой гаспадаркай, будуць: млыны, цэмэнтоўні, ніцярні. Тут патрэбна толькі сіла, каб гнаць машыну.

Фабрыкамі з пераважаючай цеплавой гаспадаркай будуць: фарбярні, цукроўні, фабрыкі сырнічак і г.д. Тут машыны не вымагаюць столькі сілавой энэргіі, затое патрэбна цяпло, бо толькі пры акрэсьленай тэмпэратуры раствору фарба возьмецца за матар'ял, бо трэба высушыць матар'ял пасьля фарбаваньня, трэба адпараваць цукар з раствору ў цукроўні і г.д. У дадатку гэта цяпло так і імкнецца, каб ухіліцца ад свайго абавязку і, уцёкшы ў міжплян[illegible], бескарысна аграваць іх.

[illegible] з новых і [illegible] мерапрыемстваў пры [illegible] цепла-

вой энэргіі,побач са шматлікімі іншымі зьяўляецца гэтак званая цеплапомпа,прынцып дзеяньня і галіны застасаваньня якой я і хацеў-бы парушыць у гэтым артыкуле.

Уявем сабе,што мы маем у начыньні водны раствор цукру,з якога,шляхом адпараваньня вады,мы хочам выдабыць цукар.Маем дачыненьне з так частым у цеплавой тэхніцы працэсам адпароўваньня.Гэта,мы можам правесьці падаграючы начыньне папросту зьнізу,альбо правёўшы ў яго сьпіральна скручаную трубку,праз якую будзе праплываць гарачая пара ці газ,альбо,ізноўжа,пусьціўшы гэтую пару ці газ у падвойныя сьценкі начыньня.З раствору у форме пары выдзяліцца вада і мы,па пэўным часе,дасягнём свае мэты.Будзе гэта,аднак,з пункту гледжаньня цеплавой гаспадаркі самы нээканамічны працэс,бо вылучаная вада у стане пары адлятаючы панясе з сабою цяпло,якое ўспрыняў раствор,падаграючыся ад тэмпэратуры акружэньня да 100°Ц. /тэмпэратуры параваньня/,ды яшчэ скрытае цяпло параваньня вады г.зн. тое цяпло,якое трэба было даддаць вадзе пры тэмпэратуры 100°Ц.,каб зьвярнуць яе ў пару пры гэтай-жа тэмпэратуры.Просты рахунак паказвае,што пры нармальным ціску кожны кілёграм адпараванае пары панясе такім чынам з сабою 638,5 калёрыяў для ацяпленьня міжпланэтнага прастору,што зусім не зьяўляецца нашай мэтай.Калі ўлічым яшчэ,што пры найбольш эканамічным спальваньні /забясьпечыўшыся ад усякіх стратаў цяпла - што ў цеплавой тэхніцы ніколі не здараецца/,спаліўшы 1 кг. каменнага вугля сярэдняй якасьці,мы атрымаем 6900 калёрыяў,альбо з 1 кг. торфу 4000 калёрыяў,дык пераканаемся,што кожныя 11 кг. пары каштуюць нам у найлепшым,ідэальным выпадку 1 кг. вугля,альбо 1,75 кг. торфу.У дадатку пара гэтая была нам зусім непатрэбная.

Іначай,з пункту гледжаньня ашчаднасьці цеплавой энэргіі,будзе выглядаць гэты працэс пры застасаваньні прынцыпу цеплапомпы.




У начыньні "а" знаходзіцца раствор, які падаграецца падведзенай у падвойныя сьценкі яго парай.Адпараваная з раствору пара з тэмпэратурай $t_1$ і ціскам $p_1$ па трубцы пераходзіць у кампрэсар "в" /машыну,якая яе спружвае/. Кампрэсар "в" гоніцца электраматорам "с".

Выходзячая з кампрэсара пара мае вышэйшы ціск,а дзеля таго і вышэйшую тэмпэратуру $t_2$ ,з якой яна і паступае ў сьпіральную трубку зьмешчаную ў нутры начыньня "а".

Цяпло заўсёды плыве ад целаў з вышэйшай тэмпэратурай да целаў з ніжэйшай тэмпэратурай,а значыць згушчаная пара пачне аддаваць сваё цяпло назад раствору,падаграючы гэтым яго і астываючы сама.Мала таго.Знаходзячыся пад зьвялічаным ціскам,пара хоць і мае вышэйшую ад раствору тэмпэратуру,аднак,пачне скрапляцца раньней /напр: пад ціскам р - 1,5 ата. пара пачне ўжо пры тэмпэратуры 111°Ц. скрапляцца/,што вельмі карысна,бо выдзеленае пры скрапляньні цяпло параваньня,дзякуючы захаванай і цяпер надвыжцы тэмпэратуры / да канца працэсу параваньня ці,як у гэтым выпадку,скрапляньня,тэмпэратура $t_2$ застанецца бяз зьмены/,адплыве ў напрамку ніжэйшай тэмпэратуры $t_1$ г.зн. назад у раствор.

Хочучы быць кансэквэнтна ашчадным і,мы зьбіраем гарачы кандэнсат пасьля выхаду сьпіралі з начыньня "а" /дзе ён ня мог астыць ніжэй тэмпэратуры $t_1$ - звычайна 100°Ц./ у начыньні "d",праз якое цяпер праходзіць сьпіральная трубка,дастаўляючая халодны раствор ў бак "а".У выніку новага абмену цяпла,раствор падаграецца перад уступленьнем у бак "а" цяплом адабраным ад,далей ужо непатрэбнага,кандэнсату,які,з тэмпэратурай ледзь-ледзь вышэйшай за пачатковую тэмпэратуру раствору ў пункце "I", пакідае абег.

Цяпло,што мелася быць страчаным уцёкшы з парай,"перапампованае"

назад у раствор, пайшло на падаграваньне гэтага апошняга. На вонкі замест гарачай пары выйшаў астуджаны кандэнсат яе. Каб атрымаць чысты здабытак у гэтым працэсе, трэба ад заашчаджанай цеплавой энэргіі адняць энэргію, выдаткаваную маторам "с" на працу кампрэсара "в". Карысным зьяўляецца і тое, што для ходу працэсу зусім ня трэба, каб $t_1$ і $p_1$ моцна перавышалі $t_2$ і $p_2$, а значыць расход энэргіі на працу кампрэсара ня будзе вялікі. Перавага тэмпэратуры $\Delta t = t_2 - t_1$ павінна быць толькі такой, каб забясьпечыць у часе кандэнсаваньня адплыў цяпла са сьпіральнае трубкі ў бак "а" і абумоўліваецца цеплаправоднасьцю матар'ялу, з якога зроблена сьпіральная трубка. Зразумела, пры выбары імкнёмся, каб цеплаправоднасьць матар'ялу трубкі была якнайлепшая. Наадварот, ствараючы вялікае $\Delta t$, мы мусім непрапарцыянальна больш укласьці энэргіі ў працу кампрэсара і цэлае мерапрыемства стаецца нярэнтоўным.

Пры помачы застасаваньня цеплапомпы звычайна асягаецца 20 да 30-ці разовае зьвялічэньне спраўнасьці адпароўваючага апарату. Так, напр. у папярэднім нашым заданьні коштам энэргіі, атрыманай са спаленьня I кг. вугля, або 1,75 кг. торфу, мы адпаравалі II кг. вады. У гэтым-жа заданьні застасоўваючы цеплапомпу мы зможам адпараваць не II а 220 да 330 кг. вады. Ашчаднасьць у цеплавой энэргіі, як бачым, вялікая.

Цікавае застасаваньне знаходзіць цеплапомпа пры аграваньні жыльлёвых будынкаў. У Швайцарыі існуе ўжо цэлы шэраг будынкаў, якія "ацяпляюцца" коштам цяпла "выпампаванага" з Бодэнскага возера, тэмпэратура якога хістаецца ў межах ад 3 да 13°Ц. Так, напр. палітэхніка ў Цюрыху, замест цэнтральнага ацяпленьня, карыстаецца цяплом возера Ліммат. Танна і практычна — і вугля ня трэба, і цёпла. На першы погляд выдаецца парадоксам, бо як можна пры помачы вады маючай тэмпэратуру 13° аграваць калёрыфэры, калі для гэтага патрэбна вада з мінімум 70°Ц.

Асягаецца гэта пры помачы вышэйабгаворанага прынцыпу. У спэцыяльныя рэзэрвуары з возера бярэцца даволі значная колькасьць вады. Па сьпіральна скручаных, затопленых у гэтай вадзе трубах /рэзэрвуар "$\alpha$" / працякае спэцыяльная, хімічна вытвараная вадкасьць, якая ўжо пры тэмпэратуры вады ўзятай з возера паруе. Як амаль усе вадкасьці ў прыродзе, так і гэтая паруючы забірае ад акружэньня /у даным выпадку з вазёрнае вады ў рэзэрвуары "$\alpha$"/ некаторую колькасьць цяпла – неабходнае цяпло параваньня.

Шкіц 2.




Атрыманая пара, як і папярэдне, ідзе ў кампрэсар "в", які згушчае яе да такога ціску, каб тэмпэратура пары ў выніку кампрэсіі ўзрасла па-над 70°Ц.

Як бачым, эканамічнасьць гэтага працэсу ў параўнаньні да папярэдняга будзе значна меншая таму, што тут кампрэсар выконвае большую працу, бо мусіць мацней згусьціць пару /$\Delta t$ значна большае як папярэдне/.

Згушчаная пара, праходзячы ізноў па сьпіралі затопленай гэтым разам у рэзэрвуары "а" з вадою прыбыўшай з калярыфэраў агравальнай сыстэмы, скрапляецца аддаючы сваё цяпло параваньня вадзе, у выніку чаго тэмпэратура гэтай вады ўзрастае да патрэбнага ўзроўню. Цяпер гэтая вада можа ізноў пайсьці ў калёрыфэры і ацяпляць памешканьне.

Скропленая вадкасьць ідзе назад у сьпіралю ў рэзэрвуар "$\alpha$" па новую порцыю цяпла і цыкль пачынаецца нанова.

Ясна, што з прычыны "выпампоўваньня" цяпла тэмпэратура вады ў рэзэрвуары "$\alpha$" будзе абніжацца. Магло-б дайсьці да таго, што яна абнізілася-б ніжэй за тэмпэратуру, пры якой паруе нашая вадкасьць і гэтая апошняя перастала-б параваць. Цыкль мусіў-бы спыніцца. Каб гэта ня здарылася, што некаторы час астуджаную ваду выпускаюць у возера, а на яе мейсца набіраюць сьвежую.

Для ацэнкі паплатнасьці ніжэй падаём цеплавы білянс аднэй з та-

кіх агравальных сыстэмаў.

У гэтай сыстэме ў часе параваньня,вады Бодэнскага возера аціхгваецца - 1068000 каль/гадз. /калёрыяў на гадзіну/.На працу кампрэсара зужываецца энэргія,якая,пасьля пераліччэньня не на раўназначную цеплавую, роўна - 442000 каль/гадз.Гэтую-ж колькасьць энэргіі ў форме цяпла кампрэсар перадае згушчанай пары.Такім чынам,уступаючы па сьпіралі ў рэзэрвуар "а" пара нясе з сабою 1068000 + 442000 = 1510000 каль/гадз. цяпла, якое яна скрапляючыся аддае вадзе прызначанай да ацяпленьня.Такім чынам мы ўкладаем у уладжаньне энэргію патрэбную для працы кампрэсара ў колькасьці 442000 каль/гадз.,а атрымоўваем дзякуючы "цеплапомпе" амаль у 4 разы болей,бо 1510000 каль/гадз.Карысьць відавочная.

На гэтым можна было-б лічыць прынцып дзеяньня цеплапомпы і практычныя застасаваньні яго ў сяньняшняй цеплавой тэхніцы дастаткова абгаворанымі і высьненымі.

Хочацца яшчэ раз падкрэсьліць,што гэта ёсьць можа адно з цікавейшых і даючых лепшыя вынікі ў справе заашчаджаньня цеплавой энэргіі ўладжаньняў,але,пры ўсім гэтым,гэта толькі ўспамагаўчае мерапрыемства ніяк ня прэтэндуючае на званьне "пэніцылін" у справе лячэньня загрожанай вычарпаньнем паліўных рэсурсаў энэргэтычнай гаспадаркі.Цеплапомпа,разам са шматлікімі іншымі ашчаднасьцевымі мерапрыемствамі,у якія ўзброена сяньня тэхніка,можа адцягнуць на некаторы час канец,але не запабегнуць яму. Вычарпаньню паліўных рэсурсаў,магчыма,здолела-б запабегчы поўнае выкарыстаньне на ўсёй зямной кулі,там дзе гэта ёсьць тэхнічна магчыма, энэргіі спадаючых водных масаў.Альбо... альбо адкрыцьцё новай, беспараўнаньня большай крыніцы энэргіі.

Крыніца гэтая ўжо адкрыта.Гэта - атомная энэргія.Пакуль што магутнасьць яе выявілася ў зьнішчэньні.Але хто ведае? Можа мы стаім сяньня на парозе новае эпохі ў тэхніцы -- эпохі мірнага выкарыстаньня атомнай энэргіі?

Тады можа дробныя ашчаднасьцевыя мерапрыемствы,як абгаворанае ў гэтым артыкуле,страцяць значэньне суровай неабходнасьці,бо хто ведае ці захоча ашчаджаць,узброенае новаадкрытымі скарбамі энэргіі людзтва.

Інж.Р.

---§§§---

ШТУЧНЫ ДОЖДЖ

Як даведваемся з паведамленьняў прэсы /"Ное цайтунг"/ у днях 8-га і 9-га верасьня г. г. былі праведзены ў ваколіцах Мюнхэна цікавыя экспэрымэнты.

Самалёт амэрыканскіх паветраных сілаў, падняўшыся на вышыню 4000 мэтраў, упырскваў у насычаную вільгацьцю хмару вокіс вуглероду ў вадкім стане. Гэта выклікала кандэнсацыю пары і хутка пачаў падаць дождж. Пры тым сіла дажджу залежыць ад колькасьці зужытага вокісу вуглероду, а час трываньня дажджу ад вільготнасьці хмары. 8-га верасьня 25 кг вокісу [illegible] трываў ля 45 хвілін, 9-га верасьня 50 кг вокісу выклікалі дождж, які трываў [illegible] за гадзіну.

---§§§---




Ціха сунецца наша лодка па паверхні люстранай вады. Ледзь адчувальныя штуршкі матору, як-бы баіцца збудзіць цішыню ранку і вечны маестат акружаючых грамадзінаў-гор. Іх стромыя сьцены прыглядаюцца сьціснутай вадзе і плывучым лупінкам – нашым лодкам. Кожны нахіл, кожны магчымы выступ, кожнае мейсца, дзе можна схапіцца выкарыстана ялінай, кустом, яшчэ вышэй мохам, які ў канцы паддаўся ў барацьбе і голая скала трыумфальна высіцца ў небе гордая сваёй недасяжнасьцю. Дрэнна адважнаму, які ня маючы досьледу адважыцца парушыць яе нятыкальнасьць. Яна патрабуе ахвяр і яна прымае іх што пэвен час.

Прыгожа льюцца гукі мэлёдыі з фанфары нашага матарнічага. Слова баіцца вырвацца з грудзей, вушы хочуць злавіць кожны водцень мэлёдыі недзе вунь там адказваючага нябачнага нам духа гор – чароўнага рэха. Яшчэ і яшчэ паўтараецца чароўная сімфонія гор... Гэтая раньняя горная малітва імкне ў далёкую высь, бясконцы блакіт і нам заслуханым служыць прыгатаваньнем, адкрыцьцём усіх цудаў прыгожага Кёнігзээ.

Мінаем "Малервінкель", аб сьцяну якога калісь прычнула ў трэскі лодка з некалькі дзесяткамі цікавых, як мы турыстаў, кінутая хвалямі на скалу за нешта разгневаным, узбураным возерам. Толькі адзін сьведка быў ашчаджаны і чырвоны крыж пры скале стаіць, як прыпамненьне аб нікчэмнасьці нашай перад акружаючай натурай. Памалу вынікаецца група вяршыняў "Ватцманн", з якіх "Ватцманн"-бацька займае дамінуючае палажэньне -- найвышэйшая гара ў ваколіцы.

Усё глыбей і глыбей плывём у гэтую аграмадную браму шляхом, які творыць параўнаўча вузкае возера, а бакавыя шульлі – шпалер стромых скалаў. Куды вядзе нас гэты калідор ? Заступаючыя аграмадзіны здаюцца, аднак, жывымі – гэта ўяўленьне чалавека стараецца іх ажывіць. З па-за сям'і "Ватцманн", дзе трымаюцца разам бацька, маці і меншыя дачушкі, відаць ў профілі галаву Напалеона. Ён, задуманы прыглядаецца акружаючым горам быццам пераканаўшыся, што слава яго, аднак, нішто ў параўнаньні з вечнасьцю гэтых скалаў... А далей два сланы. Яны зьвернуты на поўдзень, ім ніпачым чар прыроды, яны хочуць да сонца ў свой край...

Занятыя малюнічасьцю нашай дарогі, не заўважаем як канца і высядаем у канчатковым прыстанку "Салеталыпэ". Гэта шырокі парог. Калідор вядзе далей і замыкаецца такой-жа скалістай сьцяной. У вачох нашых паўстае вобраз катастрофы, што адбылася шмат вякоў назад. Суправаджаная грамавым гукам, адрываецца скала і з страшэнным шумам сунучыся лявінай, дзеліць возера. Аграмадныя кавалкі скалаў, коцяцца па павехні вытваранай мяжы і застаюцца ляжаць аж да сяньня. Захацелі злучыцца дзьве сьцяны, разьдзеленыя вадой і дапялі свайго. Паблізкае возера "Обэрзээ" на 10 м. ляжыць вышэй за Кёнігзээ. Яно шмат меншае, замкнутае з трох бакоў няпрыступнымі горамі, зьяўляецца канцом гэтага прыроднага малюнічага калідору. І паспраўдуй выйсьці адсюль ! Сьвет здаецца замкнутым у гэтай катлавіне. Адзіным спалучэньнем з вонкавым сьветам ёсьць лодка. Недзе вунь там, за гэтымі сьценамі кіпіць жыцьцё, шумяць мільёнавыя гарады, трашчаць маторы, вядуцца войны, людзі заняты нейкімі, нікому тут непатрэбнымі, турботамі. Яны будуюць там сваё лепшае існаваньне, і, ня вытрываўшы, уцякаюць сюды, каб пабыць тут кароткі час у палоне гор, а адчуўшы сваё нішто, ізноў вярнуцца ў штодзённы вір...

Цесна тут. Заплюшчыўшы і раптоўна адчыніўшы вочы, ты заскочаны нечаканай загародай, якая паміма сваёй красы і малюнічасьці станоўка кажа: "стоп, уцёк сюды ад сьвету і забудзься аб ім !"

Самотна гучаць нашы галасы поўныя падзіву і захапленьня. Дзеці раўніны, выхаваныя драмлівых лясоў і спакойных вёсак – па рознаму адчуваем

акружаючае. Цікал задума адных, галоснае выяўленьне ўражаньняў другіх. Адзін толькі нявыказаны, супольны ўсім нам успамін набягае і хвілёвы сум знайходзіць адбіцьцё ў вачох кожнага... Зачыняеш вочы і ўспамін гэты ўсплывае іншым, так блізкім сэрцу, вобразам...

Невялікія хвалі прабягаюць па паверхні вады і рытмічна палошчуць нявысокі плоскі бераг. Ізноў ціха, бо ветрык праляцеў і недзе зьнік. Зялёныя хвоі і яліны густой сьцяной спынілі свой бег на самым беразе. У спакойнай вадзе яны прыглядаюцца сабе як тая пяючына. Набягае ветрык ізноў і адбітак іх скача, як-бы гуляючы з вадой. Срэбна шклянае, глыбока віідавочнае дно запрашае купацца. Магутнай калюмнадай пнёў абступіўшы возера лес зайздросна сьцеражэ яго таямніцаў. У ціхую спакойную ноч, калі ніводзін лісток на дрэве не шаўханецца, калі зьвер у лесе не бегае, каб трэскам гальля не змуціць глыбокую цішу, калі толькі салаў'і адны срэбнымі непераданымі тонамі чаруюць вуха, а ясны месяц плыве ў чыстай сіняве неба і асьвятляе глыбокае, белае дно — дзеюцца тут нястворанныя рэчы. З вады выходзяць рыцары-стража затопленага замку. Блішчыць іх зброя, гучаць баёвыя катлы, зьвіняць трубы...

Адлятае чароўны міраж і стралюючыя ў неба скалы ізноў перад табою...

- Па рознаму жадныя ўражаньняў, з нас найбольш нецярплівыя выбіраюцца зьведаць "Айскапэльле". Даволі цяжкі для няпрывычных узыход пад гару, не заўважаецца. Здаровае чыстае паветра і пах ялінц дадае сілаў і чаканае, цікавае нявецамае рве нас наперад. Вялікія глыбы каменьняў--скалаў раскінуты паабапал нашай кручанай сьцежкі. Дрэвы, уступіўшыя ім месца, сілдцца схаваць іх перад вокам цікавых, а зялёны мох, месцамі пакрыўшы гэтыя стотановыя "кавалкі", робіць іх таемна нявідочнымі. Часамі лес прарываецца сухімі цяпер, а ірвуча-шумлівымі з вайна, варочаючымі вялікія каменьні, патокамі. І нам прыходзіцца скакаць па вострых каменьнях, або ступаць па хісткіх кладках, каб ізноў шнурочкам прабірацца па зарослай кустамі, то ўверх то ўніз стромай сьцежцы. Выходзім урэшце на прагаліну і ціха пасоўваемся ў глыбокі "кацёл" з адбітым чэрапам-выхадам на "Кэнігзээ", а дном занятым кустамі і аграмадным высахшым патокам, на дне якога ўецца струмень крыштальнай ільдзяной вады. Па шчылінах між глыбамі каменьняў прабіраемся далей, з увагай скіраванай на лапіну вечнага сьнегу. Дзіўнае ўражаньне: у адных кашулях і з голымі нагамі каля зьлепаваценай масы. Спыняемся перад гэтым летнім сьнегам з шумам падаючай вады ў вушох. Вялікі, некалькі мэтраў тоўсты, сьнежны трыкутнік падставай апіраецца аб дно гэтай катлавіны, а верхнім кутом пнецца ўгару на схіл Ватцмана, просячы ў яго ратунку перад бязьлітаснымі цёплымі праменьнямі сонца. І цякуць сьлёзы са сьнегу. Паасобныя кроплі лучацца ў ручайкі, а тыя ледаватым струмянём дасягаюць там далёка ў сіняве схаванага Кэнігзээ. Але ня толькі праменьні сонца заўзята нішчаць сьнег. Гарачая скала таксама не жадае, каб на яе апіралася гэтая халодная маса, і яна змушае сьнег уздымацца, творачы між лёдам а сабою пустое месца-гроту, у якой памясьцілася-б пару дзесяткаў турыстаў наглядаючых гэтую цікавую гульню натуры. Але непадатна ляжыць вякамі лёд. Дарма, што толькі вады забірае гарачае лета. Дарма, што гарачыня змушае яго курчыцца і малець. Ён перажывае, пакуль наступная зіма не дапасьць сілаў перамагчы ізноў у гэтай барацьбе цяпла з холадам.

Вышэй, вышэй... Новых уражаньняў! Чапляемся рукамі, апіраемся на хісткія абломкі, пнёмся ўгару. Але моцна бароніцца скала. Ледзь прыліпленая сям-там трава не вытрымоўвае . Глянеш уніз і амаль стромая сьціна напаўняе жудасьцю. А што, калі адламак скалы, на які апіраецца нага, адарвецца? І нязграбныя, неспрактыкаваныя нашыя рухі перасьцерагаюць перад усыпінаньнем далей.

Гордая скала астаецца для нас незабытай і мы пераможаныя адыходзім.

А. К.



---§§§---

## ЗАНЕПАД ЦІ ВЫПАДКОВАСЬЦЬ?

У апошнім часе назіраем сумнае зьявішча: амаль усе / праўда выдаваныя ратататарным мэтадам/ часопісы перасталі раптоўна выходзіць. Сяньня можна яшчэ толькі спаткаць новыя нумары часопісаў "Студэнцкі кліч" і "Шляхам жыцьця". Надта багатай прэсы мы і так ня мелі, аднак, выходзіла некалькі грамадзкіх і літаратурна-мастацкіх часопісаў. Хацелася-б ведаць, што сталася з "Шыпшынай", "Сакавіком", "Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі" і іншымі, што робяць тыя людзі, якія ў свой час узяліся за выдаваньне вышэйпералічаных часопісаў?

Мы чуем часта апраўданьні, што цяпер усе заняты важнымі справамі. Нельга запярэчыць, што ў апошнім часе вядзецца ўзмоцненая акцыя за выдзяленьне беларусаў у собскія лягеры і робяцца захады для атрыманьня ліцэнзіі на беларускую газэту.

Побач з гэтым, аднак, наглядаем масавае зьяўленьне разнаякіх лятучак, часта кампрамітуючых нас беларусаў на чужыне. Мы згодны думаць, што гэта часовае, выпадковае зьявішча. Паўстае, аднак, сумнеў, ці гэты "жанр" выдавецкай дзейнасьці не замяніў сабою ранейшых часопісаў?

Пажадана і карысна было-б, каб беларускія грамадзкія ўстановы зьвярнулі на гэты ненармальны стан рэчаў больш увагі і спынілі гэтую дзейнасьць.

Чытаючы паведамленьні аб кангрэсе прадстаўнікоў прэсы Д.П., які адбыўся 13-га г. м. у Аугсбургу, знайшоўшы ў пераліку ўдзельнікаў дэлегатаў усіх нацыянальнасьцяў акрамя беларусаў прыходзіцца сапраўды сароміцца!

Вось у напрамку стварэньня праўдзівай, на высокім узроўні стаячай прэсы нам і трэба прыкласьці ўсе свае намаганьні.

Варус

---§§§---

З бацькаўшчыны.

## ПАМЁР ПІЧЭТА

Даведаўшыся з прэсы аб сьмерці першага рэктара Менскага Універсітэту выдатнага беларускага навукоўца-гісторыка праф. Уладзімера Пічэты, імя каторага далёка было ведамім па-за межамі нашай бацькаўшчыны, я ўспомніў тыя часы, калі быў слухачом яго лекцыяў.

Здаецца як сяньня ён стаіць перад маімі вачыма на катэдры ў універсітэцкай залі ў Менску і сваім мілагучным, прыемным голасам чытае лекцыю з гісторыі Беларусі. Кожны сказ, кожнае слова мае сваю вагу, сваю прыгожасьць, так што слух быццам музыку прагавіта ловіць іх, а вочы, як-бы прыцягнутыя магнэсам, сочаць за кожным рухам гэтага вялікага мастака, прамоўцы. Гэта было ў 1919 -20 г. Мімаволі напрошвалася параўнаньне з Ігнатоўскім, каторы займаў катэдру як чарговы выкладчык пасьля Пічэты і трудна было сказаць, хто з іх перавазтае. І той і другі прыкоўвалі ўсю ўвагу слухачоў да сябе. Здаецца, слухаў-бы іх і аднаго і другога ня 2 гадзіны, а 5-10 гадзін штодзённа. Розьніца між імі была хіба толькі ў іх канстытуцыі -- будове. Пічэта быў болей шчуплы, жывы, рухлівы, а Ігнатоўскі -- шырокаплечы, разважны, павольны. Пасьля кожнай лекцыі, памятаю, Бранавіцкі, Дзямідовіч і я зьбіраліся і прыводзілі ў сыстэму.. ўсё тое, што было пададзена нам гэтымі двума вялікімі важакамі беларускае грамадзкае думкі таго часу. Салі на лекцыях гэтых двух мастакоў была заўсёды перапоўненая. Здавалася, адкуль бярэцца гэтыя слухачы? Няўжо-ж у іх хапае часу, магчымасьці? А трэба ведаць, што ў той час жыцьцё ў горадзе было вельмі цяжкае. Ня было харчоў. Па бульбу трэба было ісьці за 20 км ад гораду. Ня глядзячы на гэткія цяжкія ўмовы, аднак, людзі прыходзілі на лекцыі гэтых двух волатаў.

Гэта хіба ясна акрэсьлівае тую дараватасьць, тую дамінуючую вышыню іх інтэлектуальнага ўзроўню, якія прыцягвалі шырокія масы заспакоіць прагавітасьць духовае ведзы.

Шкада толькі, вельмі шкада, што такія людзі, дзякуючы няспрыючай для нас беларусаў дзяржаўнай каньюнктуры, змушаны былі перастаць працаваць для бацькаўшчыны, а што яшчэ горш /як Ігнатоўскі і іншыя/ прадчасна скончыць з сабою, каб ня бачыць тае крыўды, якая беспадстаўна агентамі ГПУ пашырвалася -- бяз віны вінаватай -- беларускай інтэлігэнцыі.

Ф.

---§§§---

"А Д П Л А Т А"
Паэма Якуба Коласа. Менск 1946.

/зацемкі чытача/

Яшчэ адзін пісаны на заказ "партии и правительства" твор нашага калісь вялікага паэта-эпіка. Вялікага ня сьціртамі казённай стандартнай макулятуры, напісанай ім на працягу апошніх 20-ці год. Вялікага - шматколернасьцю, высокаю паэтычнасьцю ягонай ранейшай творчасьці, багацьцем мастацкіх вобразаў паэмы "Сымон музыка", вялікага, пахнучаю зацішшам родных палеткаў, дыхаючаю народным сялянскім бытам сонечнасьцю "Новай зямлі" - гэтага нашага нацыянальнага эпасу, мастацка намалёванай панарамы, роўнай з якою ня маюць у свае́й літаратуры шмат якія народы.

Вельмі мала з гэтага ранейшага, якога трэба было спадзявацца, мае ў сабе "Адплата". А тэма багатая, сапраўды народная, вымагаючая стварэньня нечага вялікага, роўнага раману "Война и мир" Л. Толстого ў расейскай літаратуры.

Тэмай гэтай зьяўляецца партызанскае змаганьне беларускага народу з гітлероўскім акупантам нашай бацькаўшчыны. Узьнікла гэтае масавае стыхійнае змаганьне на здаровым грунце супраціву перад брутальным тэрорам чужынца даючы гэтым доказ свабодалюбнасьці нашага народу.

Ня ўзьнікла гэтае змаганьне на грунце савецкага патрыятызму, любові да камуністычнае партыі і "правадыра народаў". Што гэта так, аб гэтым сьведчыць тое нежаданьне ваяваць, з якім у пачатку вайны, ня ведаючы, што нясе з сабою Нямеччына, каб уцячы ад савецкай сапраўднасьці, масава здаваліся ў палон савецкія войскі. Трагэдыяй беларускай партызанкі было тое, што, ня маючы дастаткова моцнае свае мілітарнае базы, яна мусіла, у вялікай свае́й бальшыні, ніяк ня ў выніку свайго савецкага патрыятызму, а толькі дзеля вайсковай неабходнасьці прыхіліцца да, старанна прыгортваючых яе да сябе праз сваіх агентаў, саветаў. Тым больш стаецца гэта зразумелым на фоне руінаў саюзу Саветаў з Англіяй і Амэрыкай, які быў выкліканы таксама вайсковай неабходнасьцю перажываната моманту.

Гэтага ня хоча бачыць Якуб Колас. Беларускую антынямецкую партызанку ён цалкам залічвае на рахунак савецкага патрыятызму. Але перайначаньне і ўпрашчэньне тэмы мсьціцца. На фальшывым фоне, у звужаных рамках трудна намалёваць панараму вартую загалоўка "Адплата" -- адабразіць адплату беларускай народ-най стыхіі зненавіджанаму акупанту. Аўтар пазьбягае ўжываньня яскравых, вострых фарбаў, сьмелых узмахаў пэндзля, да якіх змушалі-б праўдзівасьць і паэтыцкі узьлёт, мусіць, каб, барані Бог, ня вылезла на верх хоць саюзнае ў даны момант з Саветамі, але нешта моцнае, народнае, беларускае. І ўся адплата зводзіцца да апісаньня дзейнасьці невялічкай партызанскай групы ля вёскі Навінкі. Замест вялікага, гэраічнага абразу - фрагмэнтарычны шкіц з дробненькімі фігуркамі гэрояў, з адзіным гэраічным учынкам - узарваньне чыгуначнага мосту.

Сялянскія тыпы намалёваны бледна. Найбольш яскрава і рэальна прадстаўлены нэгатыўны тып здрадніка Цімаха. Пазытыўныя тыпы слабейшыя з іх плякатнымі савецкімі выказваньнямі. Ці то ў пагоні за чэрствым сялянс-

кім рэалізмам гэтых тыпаў,ці то хочучы іх вуснамі выказаць ненавісьць беларускага народу да акупантаў,аўтар у вусны дзеючых асобаў укладвае столькі лаянкі пад адрасам немцаў,што гэтым моцна абніжае паэтычнасьць твору.Можна было-ю гэтую ненавісьць выявіць ня ў словах,якімі абзываюць партызаны ворага,а ў іхняй дзейнасьці.А так,мейсцамі атрымоўваецца прост рыфмаваная лаянка.

Толькі,характэрныя ранейшай паэзіі Коласа,цудоўныя прыродаапісаньні паранейшаму захапляюць нас пры чытаньні новай ягонай паэмы.Яны перакліка-юцца з успамінамі малюнкаў "Новай зямлі","Сымона музыкі",крануюць скарбы ўражаньняў,якія вынесьлі мы ў нашых душах з далёкай бацькаўшчыны.У гэтых апісаньнях прыроды чуецца мастак нашага эпасу - той Колас,якім мы яго ведаем з ягонай ранейшай творчасьці.Нажаль іх у "Адплаце" менш чым-ся ў ранейшых паэмах Якуба Коласа.

Наагул-жа паэма "Адплата" зьяўляецца доказам наколькі зьменшвае вартасьць паэтычнага твору пісаньне на заказ са згары накінутымі палітычнымі тэндэнцыямі.

М.Падгорны.

---§§§---

x x
x

У небе свае адбываліся справы,
Ды людзі тут іх не зважалі.
Пашумліваў вецер лагодны,ласкавы,
Гайдаўся ў галінах,лажыўся на травы
І кветкам падлічваў каралі.

Кашлатыя хмары,як шапкі-папахі,
Разьвешвалі чорную воўну,
На сьветлае сонца рабілі замахі,
Расьлі,напаўзалі,як зданьні,як страхі --
Таемна,пагрозна,бязмоўна.

Пасляліся густа аблокі,
Здавалася,багны нябёсаў аселі,
Аперліся цяжка на цёмныя елі
І сум затаілі глыбокі.

Схавалася сонца,і толькі праз хмары
Ледзь сьвеціць прагаліна цьмяна.
Маркотныя цені сыйшлі на папары,
Дзе мошкі,кузуркі і пчолак атрады
Мядок бралі з кветак духмяных.

І вецер спыніўся,прысеў на галінах,
Прымоўк,як былінка сухая.
Адна толькі ў лесе шаптуха-асіна
Шушукала зрэдку аб нейкіх навінах,
Шушукне ды зноў заціхае.

А хмары клубяцца,за лавамі лавы, --
У небе ім робіцца цесна.
Пануры іх колер і від неласкавы,
Зьліваюцца ў глыбы клубоў кучаравых,
З-за лесу выходзяць злавесна.

Паўзуць яны зволына ў развазе суровай,
Суцэльную цягнуць тканіну,
Бы з намыслам нейкім,з нядобраю змовай,

І мрок апускаюць над лесам,дубровай,
І сьцелюць смугу на даліны.

І вось дзесь далёка,ніби над зямлёю,
Глухія загухкалі громы.
Струменьні маланак адна за адною
Махаюць у хмарах шырокай касою
І вычварна крэсьляць заломы.

Трывожная ціша працята зьнямeньнем,
Травінка і лісьцік застылі.
Стаілася ў страсе жывое стварэньне:
Мурашкі залазяць у схоў сутарэньня
І ходы ў мурашнік закрылі.

І раптам,што тыгра зрываецца вецер,
У момант мяняе натуру,
Рве жоўклае лісьце з макушак і з вецьця
І круціць,і верціць,і гоніць,як сьмецьце,
І пыл,бытцам воблака круціць.

Трапечуцца дрэвы,кусты ў дзікім тлуме,
Размахваюць,б'юцца галінай,
Губляюцца громы ў тым жудасным шуме,
У песьнях зьнішчэньня,у буйстве і глуме,
У ветравай злосьці зьвярынай.

Аселі,сьсівелі грымотныя хмары
Ды срэбнаю сецьцю густою
Ідуць на палыны,на луг,на імшары,
Стаўкі і азёры кладуць на папары,
Злучаючы неба з зямлёю.

Якуб Колас
/"Адплата"/

x x
x

Над полем,дзе сьпелі жыты і пшаніца
І мыліся ў росах аўсы,
Прайшла,празьвінела свой час навальніца
На ўсе галасы.
Цяжэрныя хмары прагнала над полем,
На нівы абрушыла град.
Палегла збажынка пад дзікім свавольлем
У скручаны склад.
Ох,поле,уцеха вачэй хлебароба!
Зламіў цябе шум дажджаны,
Памята,пабіта краса і аздоба
Твае збажыны.
Схіліліся моўчкі шчыты аржаныя,
Сьцят колас і кінут у прах.
Блішчаць на ім кроплі,як сьлёзы буйныя
У блеклых вачах.
Бягуць ручаі па разорах размытых,
Выгладжваюць жоўты пясок;
Яны не пацямуць тваіх аксамітаў,
Жывы каласок!

Якуб Колас
/"Адплата"/

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

——§§§——

## З міжнароднага студэнцкага жыцьця

Брэмэн:

Ад некаторага часу ў Брэмэне адчынены акадэмічныя курсы, якія згодна з жаданьнем амэрыканскага вайсковага ўраду павінны разбудавацца ў вышэйшую школу. Акадэмічныя курсы імкнуцца, у супроцьлегласьць дасюлешняму прынцыпу нямецкіх унівэрсытэтаў, злучаць практыку і тэорыю. На працягу дня студэнты павінны ў сваім фаху практычна працаваць, а вечарам яны наведваюць лекцыі. Вячэрнія лекцыі вядуць высокакваліфікаваныя лекары, юрысты, тэалёгі. Апрача гэтага амэрыканскія навукоўцы будуць чытаць лекцыі з гісторыі Амэрыкі. Навуковы плян прадбачыць 15 гадзін заняткаў на тыдзень.

Амстэрдам:

Ужо год амстэрдамскім кіно "Крытэр'ён" адмініструюць студэнты, якія такім чынам зарабляюць сабе грошы на студыі. Кіно адзначаецца надзвычайна добрым выбарам фільмаў і цешыцца дзеля гэтага агульнай папулярнасьцю.

Афіны:

На інтэрнацыянальны рад'ёвы кангрэс, што мае адбыцца гэтай восеньню ў Грэцыі, прыбудуць таксама прадстаўнікі паўночна-амэрыканскіх студэнцкіх радыёстанцыяў. Студэнцкія радыёстанцыі існуюць сяньня пры 5-ці амэрыканскіх унівэрсытэтах: Калюмбія, Гарвард, Огіо, Прынсітон, Уоль. Яны збудаваны студэнтамі-радыёаматарамі і твораць сыстэму Міжунівэрсытэцкіх Радыёперадачаў. Праграмы гэтых радыёстанцыяў маюць у сабе музыкальныя нумары, дыскусіі, апытальнікі адносна розных актуальных праблемаў, рэпартажы, а таксама трансляцыі са студэнцкіх тэатраў, вар'етэ і спартовыя рэпартажы.

Будапэшт.

Арганізацыйны зьезд славацкіх студэнтаў выступіў з дамаганьнем стварэньня для ўсіх славацкіх студэнтаў адной супольнай арганізацыі.

Чыкаго:

Дэлегаты ўсіх паўночна-амэрыканскіх унівэрсытэтаў зьехаліся ў Чыкаго, каб прыгатаваць аб'яднаньне ўсіх студэнцкіх арганізацыяў у адну нацыянальную вунію Злучаных Штатаў.

Флёрэнцыя:

Адміністрацыя флёрэнцкага ўнівэрсытэту паведаміла аб прадбачаным зачыненьні ўнівэрсытэту, таму што дзяржава ня мае сродкаў на пакрыцьцё дэфіцыту унівэрсытэту, які роўны 40 мільёнаў ліраў, і ў бліжэйшай будучыні няма магчымасьцяў выйсьці з гэтага цяжкага становішча.

Лёндан:

З нагоды адведзінаў нямецкай студэнцкай дэлегацыі з ангельскай зоны, у Англіі паведамлена, што Лёнданскі Унівэрсытэт пераняў патранат над Бэрлінскім Унівэрсытэтам, Палітэхнікай Бэрлін-Шарлёттэнбург і Бэльградзкім Унівэрсытэтам.

Лісабона:

Мэдыцынскі факультэт унівэрсытэту ў Лісабоне зачынены, з прычыны таго, што студэнты, нягледзячы на ўрадавую забарону ўсялякіх сходаў, склікалі адзін. Паліцыя змусіла студэнтаў уласнаручна сьціраць, выпісаныя імі на сьценах, супроцьурадавыя надпісы.

Осьлё:

У Нарвэгіі разглядалася справа харчовай дапамогі нямецкім студэн-

там. На падставе, аднак, паведамленьняў аб паводзінах і мэнтальнасьці шмат якіх спасярод нямецкіх студэнтаў, цяпер аб дапамозе не гаворыцца. Нарвэгія аднадумна адносна таго, што толькі дэмакратычныя сілы ў Нямеччыне заслугоўваюць на падтрымку.

Оксфорд:
Унівэрсытэт Оксфорд прызнаў ганаровыя ступені доктароў двум францускім літаратам: Андрэ Жыд і Франсуа Мор'я.

Прага:
На трэйцім зьезьдзе Інтэрнацыянальнага Студэнцкага Саюзу ў Праве пастаноўлена выслаць дэлегацыю ў Нямеччыну. Гэтая дэлегацыя павінна ў рэфэратах на нямецкіх унівэрсытэтах пашыраць ідэю Інтэрнацыянальнага Студэнцкага Саюзу і, адначасна, дакладна паінфармавацца аб складзе студэнцтва сяньняшняй Нямеччыны і ягоных поглядах.

Выдучыя рэчазнаўцы і прадстаўнікі Праскага Унівэрсытэту сьцьвярджаюць, што студыі нямецкай культуры і духовага разьвіцьця Нямеччыны, Аўстрыі і Швайцарыі зьяўляюцца неабходнымі і ўяўляюць сабою цікавую праблему для унівэрсытэцкага жыцьця.

Рым:
У найбліжэйшым часе павінен распачацца абмен студэнтамі паміж Італіяй і Савецкім Саюзам.

Шангай:
Праект заснаваньня ў Нанкінгу сусьветнай цэнтралі матэматычных студыяў напаткаў на супраціў шмат якіх кітайскіх унівэрсытэтаў. Асаблівы моцна пратэставаў Унівэрсытэт Пэкінг, падкрэсьліваючы пры гэтым, што ў Пэкінгу існуюць найкарысьнейшыя ўмовы для навуковай працы.

Вашынгтон:
У той час як у 1939 годзе на амэрыканскіх унівэрсытэтах не налічвалася нават 100 студэнтаў, якія вывучалі расейскую мову, у сучасны момант колькасьць іх узрасла на 30000. У апошнім акадэмічным годзе колькасьць навуковых установаў, у якіх выкладаецца расейскую мову, узрасла на 38 %.

Цюрых:
У верасьні г. г. адбываецца ў Цюрыху інтэрнацыянальнае спатканьне, якое склікаецца Саюзам швайцарскага Студэнцтва, і пратрывае тры тыдні. З усіх чатырох зонаў Нямеччыны запрошаны па аднаму прадстаўніку.

---§§§---



З беларускага жыцьця.

ЛЯГЕР АДПАЧЫНКУ
для моладзі на францускай зоне

У днях ад 23-га жніўня да 1-га верасьня г. г. быў зладжаны, дзякуючы ініцыятыве сьціжнога Сьцягу Вайнгартэн сябры Ж. пры дапамозе дырэкцыі ІМКА павету Заульгау, лягер адпачынку для скаўцкай моладзі.

На лягер скаўты выбралі маляўнічую аколіцу над Дунаем. Дзякуючы здольнасьцям нашых скаўтаў хутка вырас на лузе пад лесам горад з палатак. Побач, па суседзку, разьмясьціліся расейскія скаўты. Ля пераможнага францускага сьцягу павіваў з аднаго боку бел-чырвона-белы беларускі з другога расейскі сьцяг. Скаўты стараліся па магчымасьці найлепш выкарыстаць ваду і сонца; яны шмат купаліся, гулялі і сьпявалі.

цёплую атмасфэру, якая вытварылася ў лягеры, нарушылі толькі інтрыгі кіраўнікоў расейскага скаўтынгу, якім цяжка было пагадзіцца з тым, што камэндантам лягеру быў беларус і, што ня ўсе сьцягі сіне-бела-чырвоныя. Гэта ясна. Але з фактамі, хочаш ня хочаш, трэба зьвікацца.

Дня 31-га жніўня лягер наведаў сябра штандаровы др. В. у асысьце некалькіх скаўтаў. Скаўты пры гэтай нагодзе пасьпяхова зладзілі эгзамены спраўнасьці і здабылі адпаведныя ступені.

У аснаўным скаўты правялі вельмі весела гэты час, разьяжджаліся з прыемнымі ўражаньнямі і з адным вялікім жаданьнем як найхутчэй ізноў спаткацца ў падобным лягеры.

В. Еліч

---§§§---

## ДОБРЫ ПАЧЫН

У беларускім асяродку лягеру Шляйсгайм жыве невялікая група беларусаў, яна аднак працуе. І вось яны задумалі ажывіць культурнае жыцьцё асяродка, а іменна пастанавілі ладзіць у нядзелі кожнага тыдня рэфэраты на навукова - папулярныя тэмы.

Пачатак у гэтым напрамку зрабіў спадар праф. др. С., чытаючы дня 4-га верасьня г. г. лекцыю "Тубэркулёз як сацыяльная хвароба і яго прафіляктыка". Лекцыя працягнулася праз тры вечары, была прачытана ў зразумелай форме і паслужыць добрай парадай у жыцьці выгнанца.

Беларускімі рэфэратамі цікавяцца і суседзі-расейцы і ўкраінцы, жыхары лягеру.

У бліжэйшай будучыні прадбачацца лекцыі на рэлігійна-грамадзкія і палітычна-гаспадарчыя тэмы.

В. Р.

---§§§---

## Заснаваньне Аддзелу Б.Н.З. у Шляйсгайме

Дня 15-га верасьня г. г. згодна са зваротам Беларускага Настаўніцкага Згуртаваньня на эміграцыі /Міхэльсдорф -- Баварыя/ у лягеры Шляйсгайм заснавалася прафэсыйная настаўніцкая група, у якую ўвайшлі выкладчыкі вышэйшых, сярэдніх і пачатковых школаў.

На паседжаньні было прысутных 7 настаўнікаў з лягеру Шляйсгайм.

Парадак дня быў наступны:

1. Адчыненьне паседжаньня.
2. Адчытаньне статуту Б.Н.З. на эміграцыі і камунікату першага арганізацыйнага зьезду беларускіх настаўнікаў амэрыканскае зоны Нямеччыны.
3. Выбары ўпаўнаважанага групы.
4. Вольныя прапановы.

Паседжаньне адчыніў настаўнік сп. Д., каторы на просьбу агулу вёў паседжаньне. Сп. Д. прачытаў статут Б.Н.З. і камунікат першага арганізацыйнага зьезду беларускіх настаўнікаў амэрыканскае зоны Нямеччыны. І адно і другое было прынята да ведама.

На ўпаўнаважанага ад групы Шляйсгайм быў выбраны працуючы ў мясцовай беларускай школе настаўнік Р., на дэлегата на зьезд 17-га верасьня ў Міхэльсдорфе -- настаўнік Д.

У вольных прапановах настаўнікі пастанавілі зараз-жа выпаўніць дэклярацыі аб уступленьні ў арганізацыю з тым, каб дэлегат перад зьездам мог злажыць іх у цэнтралі Б.Н.З.

В. Р.

## В ы с т а ў к а  д р у к у  Д. П.

Як нас паведамляюць з ангельскай зоны ў бліжэйшым часе мае там адбыцца выстаўка друку Д. П. Выстаўку ладзіць Камітэт Міжнароднага Паразуменьня.

------

### Дазвол на беларускую газэту на францускай зоне.

Згодна вестак, якія даходзяць да нас з францускай зоны, атрыманы там дазвол на выдаваньне беларускай газэты.
Са свайго боку нецярпліва чакаем на першы нумар.

---§§§---

## С а  с т у д э н ц к а г а  ж ы ц ь ц я .

### Пунктавая сыстэма для новапаступаючых.

Міністэрствы Культурных Спраў Бавары і Гэссэну выпрацавалі для прыйма ў вышэйшыя школы іхніх краёў новых студэнтаў пунктавыя сыстэмы, якія дадуць магчымасьць больш справядлівага выбару спасярод кандыдатаў у студэнты. Сыстэмы гэтыя ўлічваюць матывы сацыяльнага і фаховага характару.

Баварская сыстэма прадбачыць як максімум 50 пунктаў. У сацыяльнай частцы ацэньваецца: век /27 і больш гадоў -- найвышэй 4,5 пункта/; вайсковая служба і палон /кожны скончаны год -- I пункт/; вайсковая інваліднасьць /II ступень -- 4 пункты, III і IУ -- 7 пунктаў/; пацярпеўшыя з расавых, рэлігійных і палітычных прычынаў альбо пры ваенных ці пасьляваенных падзеях /"пацярпеўшыя" -- 4 пункты, "прасьледаваныя" -- 7 пунктаў/; сямейны стан /жанаты пры наяўнасьці аднаго дзіцяці -- 2 пункты, удава з дзіцём -- 2 пункты, кожнае далейшае дзіця -- 0,5 пункта/ і шматразовыя беспасьпяховыя стараньні аб дапушчэньне да студыяў /два разы ня прыняты паміма выпаўненьня пастаўленых умоваў -- I пункт/. Разам у сацыяльнай частцы прадбачана 25 пунктаў.

Пункты фаховай часткі набіраюцца з ацэнак атэстату сьпеласьці згодна з наступным прынцыпам. Ацэньваюцца, у залежнасьці ад выбару напрамку студыяў, тры спэцыяльныя прадметы і, у кожным выпадку, нямецкая мова і гісторыя. Ацэнка "выдатна" дае 5 пунктаў, "добра" -- 4 пункты, "здавальняюча" -- 3 пункты, "дастаткова" -- 2 пункты.

Гэссэнская сыстэма ацэньвае крыху інакш чым баварская. Там напр. атрымоўвае кандыдат, які быў палітычна прасьледаваны ў Трэйцім Райху, 8 дадатніх пунктаў, бýўшы вучань "Адольф Гітлер" школы -- гэтулькі-ж адмоўных пунктаў. Адмоўна ацэньваецца таксама ў мужчынаў афіцэрская альбо актыўная падафіцэрская служба. Ваенна-пацярпеўшыя і выселеныя маюць палёгкі.

/"Ное Цайтунг" Нр. 75/

---§§§---

### АГУЛЬНЫ СТУДЭНЦКІ ЗЬЕЗД У МАРБУРГУ

У днях I-га і 2-га лістапада г. г. у Марбургу адбудзецца агульны студэнцкі зьезд, які склікае Урад Цэнтралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў на Чужыне. На зьезд высылаюцца дэлегаты ад усіх мясцовых беларускіх студэнцкіх арганізацыяў паводле прынцыпу: адзін дэлегат ад кожных 5

сяброў арганізацыі. Дэлегаты павінны быць выбраны на агульным сходзе сяброў дадзенай арганізацыі.

Зьезд будзе справаздаўча-перавыбарчым зьездам Цэнтралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў, на якім мае быць абгавораны таксама цэлы шэраг іншых пытаньняў арганізацыйнага характару.

У праграму зьезду ўлучаны два рэфераты. Адзін з іх будзе прачытаны на нямецкай мове для студэнтаў марбургскага ўнівэрсытэту.

Вечарам 1-га лістапада прадбачан банкет з удзелам нямецкіх прафэсароў, прадстаўнікоў АСТА і чужынецкіх студэнцкіх арганізацыяў.

Ікс

---§§§---

## Н а р а д а ў І.С.А.

27-га жніўня г.г. у памешканьні генэральнага сакратара Інтэрнацыянальнай Студэнцкай Асацыяцыі ў Мюнхэне адбылася нарада прадстаўнікоў усіх уваходзячых у І.С.А. нацыянальных студэнцкіх арганізацыяў.

У нарадзе узяў удзел і прадстаўнік Б.С.З. у Мюнхэне.

Між іншымі была абгаворана справа хаданьняў перад адпаведнымі ўладамі аб стварэньні інтэрнацыянальнага ўнівэрсытэту ў заходніх зонах Нямеччыны, які-б прадоўжыў далей справу зачыненага вясною Унівэрсытэту УНРРА.

Аб зробленых у гэтым напрамку захадах паінфармаваў прысутных калега Міхэльсон, які зьяўляецца старшынёй Уніі Студэнтаў Унівэрсытэту УНРРА.

Пастаноўлена ўзмоцніць працу ў напрамку папулярызацыі ідэі інтэрнацыянальнага ўнівэрсытэту сярод студэнцтва і дэмакратычных навуковых колаў у Нямеччыне а перадусім за яе межамі.

Са свайго боку лічым што ідэя стварэньня інтэрнацыянальнага ўнівэрсытэту зьяўляецца найбольш яскравым выразам духу дэмакратычнага роўнапраўя і ўзаемадапамогі мацнейшых і больш шчасьлівых слабейшым і сяньня нешчасьлівым, бо пацярпеўшым якраз у выніку недэмакратычнасьці часткі сьвету /маем на ўвеце нас Б.П./.

Ажыцьцяўленьне гэтай ідэі павінна, аднак, адбыцца пад пратэктаратам вядучых культурна-навуковых сілаў дэмакратычнага сьвету, апірацца на трывалым эканамічна-навуковым грунце і выключаць цалкам: па першае элемэнт палітычнай каньюнктуральнай выпадковасьці і па другое наагул уплывы людзей, якім асабістыя іх справы бліжэй ад дапамогі бяздомнаму студэнцтву.

Гэтага вучыць нас сумная практыка Унівэрсытэту УНРРА.

Тады мо-жа ня будзе нарэшце студэнтаў з большай ці меншай колькасьцю залічаных сэмэстраў у прыгожых з глёбусам на вокладцы індэксах, студэнтаў, якія, павярнуўшы ў будучыню так шумна адчыненага ў свой час Унівэрсытэту УНРРА, сяньня ня ўсім пасьпяхова дабіваюцца пад дзьверы нямецкіх унівэрсытэтаў.

Ікс

---§§§---

## ЭКСКУРСІЯ Ў БЭРХТЭСГАДЭН.

У днях 4 і 5 верасьня група сяброў Б.С.З. у Мюнхэне выехала на экскурсію ў горы ў Бэрхтэсгадэн. У экскурсіі ўзялі ўдзел 12 асобаў.

Дзякуючы ветлівасьці ўкраінскага кіраўніцтва лягеру "Орлик", якое згадзілася прадаставіць магчымасьць начлегу, экскурсія змагла патрываць 2 дні.

У першы дзень удзельнікі экскурсіі зьведалі капальню солі ў Бэрх-

тэсгадэн,а цэлы другі дзень правялі між гор і на чароўным Кёнігзээ.Вечарам 5-га верасьня экскурсанты вярнуліся ў Мюнхэн.

Прыгожыя фатакарткі з экскурсіі,зробленыя сп.Б-кам,не дадуць зацерціся і без таго незабыўным уражаньням з прыемна праведзеных хвілінаў адпачынку.

Ікс

-----------------xxxxxxxxx-----------------

## ЗЬМЕСТ.


1. Студэнцкі кліч. . . . . . . . . . . .М.Паўловіч . . . .1 стар.
2. На новым этапе. . . . . . . . . . . .В.Сьвяцілавіч. . .3 -"-
3. На чужыне /верш/. . . . . . . . . . .М.Багдановіч . . .5 -"-
4. Цеплапомпа як адно з ашчаднасьцевых мерапрыемстваў у сучаснай цеплавой гаспадарцы. . . . . . . . . . .Інж.Р. . . . . . . .6 -"-
5. Штучны дождж. . . . . . . . . . . . ./"Нойэ Цайтунг"/ .9 -"-
6. У палоне гор. . . . . . . . . . . . .А.К. . . . . . . . 10 -"-
7. Заняпад ці выпадковасьць ? . . . . .Варус. . . . . . . 12 -"-
8. Памёр Пічэта. . . . . . . . . . . . .Ф. . . . . . . . . 12 -"-
9. "Адплата"- паэма Якуба Коласа Менск - 1946. . . . . . . . . . . . . .М.Падгорны . . . . 13 -"-
10. x x x /верш/. . . . . . . . . . . .Якуб Колас . . . . 14 -"-
11. x x x /верш/. . . . . . . . . . . .Якуб Колас . . . . 15 -"-
12. З міжнароднага студэнцкага жыцьця. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 16 -"-
13. Лягер адпачынку для моладзі на францускай зоне Нямеччыны. . . .В.Еліч . . . . . . 17 -"-
14. Добры пачын . . . . . . . . . . . . .В.Р. . . . . . . . 18 -"-
15. Заснаваньне Аддзелу Б.Н.З. у Шляйсгайме. . . . . . . . . . . .Ф.Р. . . . . . . . 18 -"-
16. Выстаўка друку Д.П. . . . . . . . . . . . . . . . . . . 19 -"-
17. Дазвол на беларускую газэту на францускай зоне. . . . . . . . . . . . . . . . . . . 19 -"-
18. Пунктавая сыстэма для нова ўступаючых /"Нойэ Цайтунг/19 -"-
19. Агульны студэнцкі зьезд у Марбургу.Ікс. . . . . . . . 20 -"-
20. Нарада ў І.С.А. . . . . . . . . . . .Ікс. . . . . . . . 2 -"-
21. Экскурсія ў Бэрхтэсгадэн. . . . . .Ікс. . . . . . . . 20 -"-




